ЗНАЙ НАШИХ!

## «Ах, Ольга, я тебя любил!..»

*Завтра в Лондоне Дмитрий Хворостовский будет танцевать с Оксаной Волковой.*




Белорусская оперная дива **Оксана Волкова** *(на фото справа)* продолжает покорять лучшие оперные сцены мира. После "Метрополитен-оперы" в Нью-Йорке, где Волкова открывала сезон 2013–2014 года вместе с **Анной Нетребко**, продолжилось ее уверенное восхождение на оперный олимп.

Этим летом Волкова впервые выступала в Миланском театре "Ла Скала", осенью – на престижнейшем Зальцбургском фестивале, а завтра певица будет дебютировать в Лондонской Королевской опере "Ковент-Гарден"! Она выйдет в роли Ольги в опере Петра Ильича Чайковского «Евгений Онегин». И кто же будет ее партнером в партии Онегина? Сам Дмитрий Хворостовский. И на балу у Лариных они будут беспечно танцевать, вызывая ревность оскорбленного Ленского.

Критики называют Хворостовского лучшим Евгением Онегиным в истории. В конце июня этого года Хворостовский, уже много лет живущий в Лондоне, объявил об отмене всех выступлений до конца августа из-за опухоли мозга. Завершив курс лучевой терапии, он немедленно приступил к работе – 25 сентября вышел на сцену нью-йоркской "Метрополитен-оперы" в роли графа ди Луна в «Трубадуре» Джузеппе Верди. Этот спектакль транслировали по всему миру, в том числе показывали и в Минске в кинотеатре «Центральном».

Ну а завтра, 19 декабря, – бессмертный «Евгений Онегин» в Королевской опере Лондона. Партию Татьяны исполнит австралийская певица сопрано Николь Кар. Дирижировать оркестром Королевского театра будет россиянин **Семен Бычков**, который регулярно работает в "Ковент-Гарден" с 2003 года.

У Оксаны Волковой, как всегда, великолепная компания.

**Елена МОЛОЧКО.**

СПЕЦИАЛЬНЫЙ РЕПОРТАЖ

Светлана АЛЕКСИЕВИЧ:

## «Мы – вместе. Я всех вас очень люблю»

*Как народ встречал своего героя*

Темнел минский зимний день, холодно зажигались фонари, тепло освещались огромные окна аэропорта «Минск-2» – там, в зале прилета, с каждой минутой все прибывало и прибывало народу. Ждали борт из Швеции. Он доставлял из Стокгольма домой лауреата Нобелевской премии писательницу Светлану Алексиевич.




Фото: Сергей ИВАНОВ.

Люди приходили с цветами, букеты были даже в руках у детей. Было много журналистов и фотографов с камерами. Чтобы минуты не пропадали зря, профессионалы начали заранее вести прямые трансляции на свои сайты. «Собралось не менее сотни встречающих», – говорила в микрофон моя коллега из Радио Свобода. «И мы стоим, кажется, уже друг у друга на голове», – подсказывала я ей, видимо, мешая серьезной работе.

Но круг встречающих действительно так сильно уплотнялся с каждой минутой, что становилось и весело, и страшно – как часто бывает в минуты сильного возбуждения. И, понимая, что от радости может произойти неконтролируемый взрыв, просто давка, толкучка, все предупреждали друг друга: «Только не бросаться на Светлану с объятиями! Только не подходить к ней слишком близко!..»

Но где ты удержишь эмоции!..

Наконец двери таможенного выхода открылись и… Появился отряд пилотов. Они с напускной строгостью и с пониманием покивали нам головами: «Ждете Алексиевич?» – «Да, да!..»

Но ее все не было. Сначала стали выходить другие пассажиры. Из Стокгольма их было, правда, совсем немного. Люди неловко озирались на фотографов, смущались, пытались быстро сориентироваться в нашей «блокаде», чтобы выйти из круга. Но некоторые улыбались и вступали в разговор: «Да, мы вытянули счастливый билет – летели вместе с самой Алексиевич! Идет, она уже идет!»

Но еще прошло не меньше пяти минут – Светлана Александровна вышла последней. Ее тут же взяли в плотное кольцо. Повисла секундная пауза, и – понеслось. Начали скандировать в общем порыве: «Свет-ла-на! Свет-ла-на! По-здрав-ля-ем!» Фотокамеры начали стрелять очередями – здесь каждая секунда золотая, историческая. У меня, признаться, от величия момента захватило дух.

– Мы следили за каждым вашим словом! Мы гордимся вами! Мы радуемся! Мы плачем от радости! – кричали люди со всех сторон.

– Спасибо! Вы и меня заставили заплакать, – растроганно отвечала Светлана Александровна. Глаза ее действительно увлажнились. Я вообще удивляюсь, как ей, маленькой немолодой женщине, удается все эти всемирно торжественные дни сохранять такое самообладание. Оглядываясь, она произнесла: – Мы – вместе. Я всех вас очень люблю.

– Как вы прокомментируете, что никто не пришел с Белорусского телевидения?

– Было ясно, что никого не будет – мы живем отдельно друг от друга. Но, может быть, они одумаются… Жить надо вместе. Но у нас – такая власть. Любого сильного рядом с собой она видеть не готова. Но именно это говорит о слабости власти.

– Светлана Александровна! А что вы чувствуете именно сейчас?

– Что нас – много!

«Дзя-куй!», «Дзя-куй!» – это хором кричали в задних рядах те, кто не мог подойти к писательнице ближе, чтобы лично поприветствовать.

«Він-шу-ем!», «Він-шу-ем!..»

– Светлана Александровна, вы встречались с королем. Что вас больше всего удивило в нем?

– Я сидела с королем на приеме целый вечер. Он оказался очень симпатичным человеком. Когда я сказала: «Короли, наверное, ничего не знают о жизни», – он ответил: «Напрасно вы так думаете». У него рано погибли родители. И он сказал, что в жизни ему было нелегко.

– Как вы относитесь к нобелиатам Вацлаву Гавелу и Михаилу Горбачеву?

– Как я могу относиться? Это великие люди.

– Автограф! Разрешите попросить у вас автограф! Подпишите книжку!

– Это нереально… – извинялась Светлана, у которой руки были заняты цветами.

– Позвольте от имени белорусского народа преподнести вам хлеб, соль и эти цветы!

«Ура!.. Живе Беларусь!..»

– Может быть, вы уже решили, что будете делать с денежной премией? Куда ее потратите?

– Я думаю, что организую интеллектуальный клуб, куда буду приглашать своих друзей, умных людей со всего мира – чтобы они с нами разговаривали. Я соберу своих товарищей, мы еще подумаем над этим. Тогда расскажу вам подробнее… Слушайте, а где Дима, где же моя машина? Где мои домашние?!.

Но встречающие еще полчаса не выпускали писательницу из плотного кольца. Те, кто стоял в стороне, заволновались: пора выпускать человека «на волю», не станет ли плохо нашей нобелиатке от такого взрыва внимания? Наконец Светлана протиснулась – другого слова не подобрать – к своему автомобилю. Ей открыли багажник, и она смогла освободить руки, сложить туда все букеты – они заняли весь багажник, чемодану уже места там не было! Багаж друзья забрали в другой автомобиль. Но еще минут десять Алексиевич не уезжала – она подписывала свои книги. Это все напоминало красивый нездешний фильм. Но происходило на моих глазах, в Минске, в родной Беларуси: народ встречал своего героя – нобелевского лауреата писательницу Светлану Алексиевич.

**Елена МОЛОЧКО.**

КОРАТКА

### «Белавія» цяпер лятае ў Харкаў

*Авіякампанія «Белавія» адкрыла новы рэйс па маршруце Мінск–Харкаў–Мінск.*

Рэйс будзе штодзённы.

Мінімальны кошт білета з Мінска ў Харкаў – 98 еўра ў адзін бок і 195 еўра туды-назад.

### Французскі ангажэмент для Віктара Мендзелева

*Уладальніцай Гран-пры II Мінскага міжнароднага Каляднага конкурсу вакалістаў стала расіянка **Надзея Паўлава**.*

Салістка Пермскага акадэмічнага тэатра оперы і балета імя П.І.Чайкоўскага атрымала не толькі дыплом, але яшчэ і прэмію ў 10 тысяч долараў.

I прэмію конкурсу і 8000 долараў павёз ва Украіну **Міхаіл Малафій**, тэнар Львоўскага нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы і балета імя С.Крушальніцкай.

II прэмія і 6000 долараў ЗША дасталіся салісту Вялікага тэатра Беларусі **Віктару Мендзелеву.**

III прэмія і 4000 долараў ЗША прысуджаны **Алене Стыхінай** (Расія), опернай дзіве з Уладзівастока, з Дзяржаўнага Прыморскага тэатра оперы і балета.

Спецыяльных прэмій журы ўдастоены **Міхаіл Малафій і Віктар Мендзелеў** – яны атрымаюць ангажэмент у Францыі і Канадзе.

ГУЧНАЯ СПРАВА



### Працэс пайшоў…

*На гэтым тыдні ў судзе Маскоўскага раёна Мінска пачалося слуханне крымінальнай справы ў дачыненні да былога гендырэктара баскетбольнага клуба «Цмокі-Мінск», у мінулым вядомага баскетбаліста Канстанціна Шараверы.*

Паводле звестак следства, Шаравера ў 2010–2014 гадах, злоўжываючы службовымі паўнамоцтвамі, распрацаваў і рэалізаваў шэраг механізмаў крадзяжу грашовых сродкаў дзяржаўнай установы.

На ўчарашнім слуханні па справе стала вядома, што Канстанціну Шараверы прад'яўлена абвінавачанне ў крадзяжы 6,27 мільярда беларускіх рублёў пры заключэнні кантрактаў з ігракамі і трэнерамі. Напрыклад, з іграком заключалася вусная дамова на адну суму, а ў канфідэнцыяльным дадатку да кантракта ўжо без ведама іграка прапісвалася іншая, завышаная. Пасля афармлення дакументаў генеральны дырэктар забіраў банкаўскую картку спартсмена, з якой штомесяц сам альбо пры дапамозе іншых асоб здымаў суму, прапісаную ў дадатку, а іграку выдаваў суму, наконт якой дамаўляліся раней. Выкрадзеныя грошы былы гендырэктар выкарыстоўваў па сваім меркаванні.

Дзеянні абвінавачанага кваліфікаваны следствам як крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі і злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі, што пацягнула цяжкія наступствы. Былы кіраўнік клуба абвінавачваецца ва ўчыненні злачынстваў, прадугледжаных ч.4 арт.210, ч.3 арт.424 і ч.2 арт.210 КК.

*"На суд не хадзіў,* – распавёў "Народнай Волі" дырэктар цэнтра эканамічнага развіцця і спартыўнага маркетынгу БК клуба «Цмокі-Мінск» **Аляксандр Куль**. – *Увогуле, не хацеў бы даваць нейкія каментары з гэтай нагоды".*

Калі віна Шараверы будзе даказана, яму пагражае да 12 гадоў зняволення.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ПРАГНОЗ

## Як хутка Віцебшчына стане Гомельшчынай?

Пацяпленне клімату… Пра яго гаворыць увесь свет, дый мы не-не, а і заўважым, што цёплае футра няма калі апранаць. Але што гэта тэндэнцыя азначае для нашай краіны?

Аказваецца, найбольш істотнае пацяпленне клімату назіралася ў Беларусі ў 1990–2000-х гадах. Прычым менавіта за кошт павышэння зімовых тэмператур. Так, сярэдняя тэмпература студзеня і лютага стала на 2–3 градусы вышэй, чым у перыяд 1960–1990-х гадоў. Адначасова на 1–1,5 градуса стала вышэй тэмпература ліпеня і жніўня. Колькасць ападкаў у лютым павялічылася, колькасць ападкаў у чэрвені зменшылася. Навукоўцы зафіксавалі і іншыя тэндэнцыі. Што гэта азначае?

Гэта азначае, што да 2050 года сярэднегадавая тэмпература паветра ў паўночнай частцы нашай краіны будзе такой, якой была на поўдні Беларусі ў 1960–1990-х гадах. Іншымі словамі, клімат на Віцебшчыне стане такім, якім раней ён быў на Гомельшчыне.

Такія дадзеныя прыводзіць у сваім артыкуле, надрукаваным у газеце "Навука" (выданне НАН РБ), вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута эксперыментальнай батанікі **Максім Ярмохін.**

**Ігар МАРОЗАЎ.**

## Не заключайце кантрактаў у расійскіх рублях

Падчас нядаўняй сустрэчы прэзідэнтаў Беларусі і Расіі ў чарговы раз прагучала інфармацыя, што ў разліках па кантрактах паміж нашымі краінамі ў якасці валюты выкарыстоўваецца расійскі рубель. У гэтай сувязі ёсць вельмі трывожная інфармацыя для тых, хто пастаўляе беларускую прадукцыю на расійскі рынак.

Эксперты амерыканскага інвестбанка Bank of America Merrill Lynch (BofA) дапускаюць абвал расійскай валюты да 168 рублёў за 1 долар ЗША. Пра гэта паведамляе агенцтва бізнес-навін РБК са спасылкай на агляд інвестбанка.

Амерыканскія аналітыкі зыходзяць з таго, што расійскім уладам давядзецца пайсці на рэзкі абвал нацыянальнай валюты для таго, каб пазбегнуць рызыкі дэфіцыту бюджэту. Так, у выпадку рэалізацыі рызыкоўнага сцэнарыя Банка Расіі, згодна з якім сусветныя цэны на нафту ўпадуць да 35 долараў за барэль (а яны ўжо сёння складаюць 38 долараў за барэль), для таго, каб Расія выканала свой бюджэт, долар павінен каштаваць 94 рублі.

Больш за тое, у выпадку падзення сусветных коштаў на нафту да ўзроўню 30 долараў за барэль, паводле ацэнкі BofA, для таго, каб выйсці на бездэфіцытны ўзровень бюджэту, долар павінен будзе каштаваць 168 рублёў.

Зразумела, што гэта вельмі песімістычныя прагнозы, але не нерэальныя. Ад шэрагу аналітычных цэнтраў прыходзяць звесткі, што кошт нафты можа скласці нават менш за 30 долараў. Але Расія мае золатавалютныя запасы і можа кінуць іх на падтрымку валютнага курсу свайго рубля. Так што ўсе прагнозы – гэта толькі прагнозы. Тым не менш што тычыцца нас, то выснова відавочная: да кантрактаў, дзе сума фіксуецца ў расійскіх рублях, трэба ставіцца вельмі асцярожна. Бо можа здарыцца так, што з гэтых кантрактаў прыйдзецца лічыць не прыбыткі, а страты.

Яшчэ больш трэба задумацца тым, хто захоўвае свае зберажэнні ў расійскай валюце. Нават калі вы хочаце нешта набыць у Расіі і для гэтай мэты назапашваеце расійскія рублі, шмат разоў падумайце над рызыкамі.

**Алег СНОЎ.**

МЕДДАВЕДКА

Дзмітрый ПІНЕВІЧ,

першы намеснік міністра аховы здароўя Рэспублікі Беларусь:

## «Камерцыйныя медцэнтры тры гады бударажылі сітуацыю, паглядзім, як хто гатовы...»




Нарэшце прыватным медыцынскім цэнтрам краіны дазволілі выдаваць бальнічныя лісты. Адпаведная пастанова Міністэрства аховы здароўя і Міністэрства працы і сацыяльнай абароны з'явілася днямі, а ўступіць у сілу з 1 лютага 2016 года. У медыцынскім ведамстве спадзяюцца, што гэтая мера дапаможа разгрузіць урачоў дзяржаўных паліклінік, якія проста задыхаюцца ад патоку пацыентаў, а значыць, дапаможа палепшыць якасць і даступнасць медыцынскай дапамогі.

Але што цікава – у самых камерцыйных медцэнтрах аб новай пастанове даведаліся з прэсы. Дык куды ж мы зможам звярнуцца 1 лютага за бальнічным лістом, калі не хочам знемагаць у чарзе ў гарадской паліклініцы па месцы жыхарства? У якіх выпадках дактары прыватных цэнтраў змогуць выдаваць бюлетэні?

Міністэрства аховы здароўя склікала адмысловую прэс-канферэнцыю, каб растлумачыць насельніцтву, як па-новаму будуць выпісвацца лісткі непрацаздольнасці. Адказваў на пытанні журналістаў першы намеснік міністра **Дзмітрый Піневіч**.

Галоўнае – прыватныя цэнтры маюць права выпісваць бальнічныя па ўсіх захворваннях і на такі ж тэрмін, як і дзяржаўныя паліклінікі, за выключэннем накіравання на санаторна-курортнае лячэнне і медыцынскую рэабілітацыю. Гэта значыць, з 1 лютага няма розніцы, дзе атрымліваць лісткі непрацаздольнасці – у прыватных або ў дзяржаўных медустановах, яны будуць аднолькава аплачаны.

Што яшчэ растлумачыў Дзмітрый Піневіч?

### 1700 медцэнтраў змогуць выпісваць бальнічныя

– У бліжэйшыя дні адбудзецца вялікі "круглы стол" з прадстаўнікамі камерцыйных медцэнтраў, – сказаў першы намеснік міністра. – Выпісваць бальнічныя могуць усе прыватныя цэнтры краіны. Спецыяльную ліцэнзію атрымліваць не трэба. У медцэнтры павінна быць створана ўрачэбна-кансультацыйная камісія (УКК) мінімум з трох чалавек.

Акрамя таго, бальнічныя лісты – бланкі строгай справаздачнасці. Для захоўвання бланкаў лісткоў непрацаздольнасці медцэнтру неабходна мець асобнае памяшканне, сейфы, закратаваныя вокны і г.д. Пры жаданні медцэнтр можа за два тыдні падрыхтавацца да выдачы бальнічных лістоў, гэта не працаёмкая працэдура. Але мы спецыяльна вызначылі тэрмін 1 лютага і спадзяёмся, што буйныя медцэнтры – "Экамедсэрвіс", "Нардзін", "ЛОДЭ", афтальмалагічныя цэнтры і цэнтры ЭКА – менавіта з гэтай даты пачнуць аказваць сваім пацыентам такую паслугу.

Тыя, хто не паспявае з 1 лютага пачаць выпіску бальнічных, могуць пачаць гэтую работу пазней. У нас у краіне 1700 камерцыйных медцэнтраў. Праўда, прыватныя медцэнтры часта дэкларуюць сваё жаданне, а потым... Але гэта іх права, не абавязак. У маім разуменні, калі цэнтр якасны, клапоціцца аб сваім заслужаным рэнамэ, то павінен аказваць гэтую паслугу. Тым больш што самі цэнтры тры гады бударажылі сітуацыю, казалі, што Міністэрства аховы здароўя не хоча... Паглядзім, як хто гатовы.

### За бальнічны ў прыватным медцэнтры плаціць не трэба

– Пацыент, звяртаючыся ў камерцыйны цэнтр, плаціць за прыём, – патлумачыў Дзмітрый Піневіч. – Асобна за сам лісток непрацаздольнасці ён плаціць не будзе. Калі ў прыватным цэнтры ёсць такая паслуга, як выклік урача на дом, то і гэты спецыяліст можа адкрыць бальнічны ліст. Гэта зручнасць для пацыентаў – атрымаць у адным месцы меддапамогу, а калі яна суправаджаецца часовай стратай працаздольнасці, то і бальнічны лісток.

Закрыць бальнічны, выпісаны ў прыватным медцэнтры, можна і ў паліклініцы па месцы жыхарства. Але мы будзем рэкамендаваць, каб гэтая працэдура (адкрыў-закрыў бальнічны) праходзіла ў адной установе аховы здароўя.

### Дзе з 1 лютага можна будзе адкрыць бальнічны ліст?

Паводле слоў Дзмітрыя Піневіча, новая пастанова некалькі лібералізавала выдачу бальнічных лістоў.

Напрыклад, калі хварэе дзіця, а аднаму з бацькоў бальнічны патрэбны не з дня захворвання, а, напрыклад, праз 2 дні, то паўторна весці дзіця ў паліклініку або медцэнтр не трэба – урач адкрые бальнічны тым днём, калі аднаму з бацькоў трэба выходзіць на працу.

Павялічана і колькасць медустаноў, якія могуць выпісваць бюлетэні. Акрамя прыватных медцэнтраў і дзяржаўнай паліклінікі адкрыць бальнічны можна ў бальніцы, шпіталі, медсанчасці, дыспансеры, радзільным доме, амбулаторыі, клініцы медыцынскай установы адукацыі, пратэзна-артапедычным аднаўленчым цэнтры, медыцынскім навукова-практычным цэнтры, медыцынскім рэабілітацыйным цэнтры, пункце аховы здароўя, фельчарска-акушэрскім пункце.

ДАРЭЧЫ

### Хварэць без бальнічнага не дазволяць

Некалькі гадоў таму ў Беларусі актыўна абмяркоўвалася яшчэ адна ідэя – дазволіць супрацоўнікам прадпрыемстваў хварэць тры дні без афармлення бальнічнага. Гэта норма змяшчалася ў рэкамендацыях Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, эксперты якой працавалі ў Беларусі. На іх думку, такая практыка, якая шырока выкарыстоўваецца ў заходніх краінах, дапамагае знізіць нагрузку на ўрачоў і зменшыць чэргі ў паліклініках.

У Беларусі, паводле слоў Дзмітрыя Піневіча, пакуль вырашана ўстрымацца ад гэтага новаўвядзення. *«Напрыклад, у Германіі ўсе стараюцца гэтыя тры дні ўзяць у любым выпадку... Давайце слана есці па частках. Паглядзім, як спрацуе механізм па выдачы бальнічных прыватнымі цэнтрамі»,* – заўважыў першы намеснік міністра аховы здароўя.

Дарэчы, такую норму, як хварэць тры дні без бальнічнага, кожнае канкрэтнае прадпрыемства можа прапісаць у калектыўным дагаворы, гэта дазволена законам.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**



SOS!



### Хто выратуе Зембінскі касцёл?

У газеце №97 (4042) ад 11 снежня 2015 г. прачытаў артыкул "Чырвоны касцёл у Мінску мае патрэбу ў рамонце". Канешне, гэты велічны архітэктурны помнік-прыгажун не павінен застацца па-за ўвагай, і ёсць надзея, што пытанне з яго рамонтам будзе вырашана станоўча.

З гэтай нагоды мне прыпомніўся другі будынак, які сёння нагадвае Рымскі калізей і другія помнікі сярэднявечча. Маецца на ўвазе касцёл у вёсцы Зембін Барысаўскага раёна. Па сённяшнім знешнім выглядзе можна вызначыць, што калісьці гэта быў касцёл-прыгажун, сапраўдны шэдэўр дойлідства. Шкада, што не робіцца ніякіх захадаў для выратавання яго астаткаў (кансервацыі), не гаворачы аб паўнавартаснай рэстаўрацыі.

Што тычыцца апошняга, то мне прыходзіць на памяць касцёл у Слоніме Гродзенскай вобласці. У свой час яго закрылі, у апошнія гады савецкай улады ён быў сховішчам для мінеральных угнаенняў. Я не мог і падумаць, што касцёл можна будзе аднавіць. Але факт ёсць факт: былі праведзены адпаведныя работы, і цяпер гэты прыгажун узвышаецца на плошчы імя Льва Сапегі.

Невядома, ці ведаюць аб стане Зембінскага касцёла кіраўнікі каталіцкай царквы. Думаю, што пасля гэтай публікацыі ў "Народнай Волі" яго лёсам абавязкова зацікавяцца ў Мінска-Магілёўскай парафіі. Яшчэ лепей, каб прадстаўнікі касцёла далі адказ праз газету. Бо не я адзін "хварэю" за лёс святыні.

**З павагай –**

**Міхаіл САЎКО, пенсіянер.**

*г.Барысаў.*

СЛОВО О ЛИЧНОСТИ

## На сельском кладбище хоронили человека…

В тот холодный декабрьский день проститься с бывшим директором МЗОР Михаилом Кривомазом собрались сотни людей: коллеги-директора, деятели культуры, журналисты, даже бывший министр оборонной промышленности России прилетел, но, главное, множество работников Минского завода им.Октябрьской революции, которые пришли проводить в последний путь руководителя, которого они уважали и любили за благородство, профессионализм и человечность. Кстати, даже бывший председатель Совмина СССР Николай Рыжков прислал телеграмму вдове покойного Виктории Кривомаз со словами сочувствия и скорби.

На простом сельском кладбище близ кольцевой дороги похоронили человека, много сделавшего для развития станкостроительной промышленности в стране. МЗОР называли «заводом заводов», потому что здесь производили уникальные станки, которые продавались во многие страны мира, в том числе и западные. Предприятие по праву считалось лучшим экспортером страны. А что же сейчас?

Нет основания не верить пришедшим на похороны рабочим, которые говорят, что с уходом Михаила Кривомаза с поста директора вот уже десять лет завод разрушается. Работники уходят, оборудование ветшает, экспортные заказы практически прекратились. Почему? «Зарплата падает, перспектив никаких, уровень жизни, как никогда, низкий, – говорят нынешние сотрудники МЗОР, – а чиновники, похоже, смирились с ситуацией...»

Не хотелось бы говорить о нынешних горе-руководителях, но одно обстоятельство заставляет это сделать. Никто из заводского начальства на похороны человека, сделавшего Минский завод им.Октябрьской революции известнейшим в СССР предприятием, так и не пришел. Что это – человеческое равнодушие? Страх перед властью? Уснувшая совесть? Неужели почтить память коллеги ныне рискованный шаг? Кого или чего испугались руководителям?



ся директорат МЗОР, чиновники Министерства промышленности да и бывший премьер Кебич, который неоднократно лично награждал Михаила Кривомаза и ставил его в пример другим

Можно сослаться на то, что они не знали о внезапной смерти уважаемого человека, но тогда как россияне узнали об этом? Рыжков-то отреагировал, а Кебич почему промолчал? Сколько у нас этих «людей в футляре», проповедующих идеологию «как бы чего не вышло», – сотни, тысячи?..

Побоються прийти на похороны человека, с которым годами работал бок о бок? Что же такого совершил Михаил Кривомаз, что так называемая чиновничья элита боится одного его имени? Просто он всегда был Гражданином своей страны и высоким Профессионалом своего дела. Будучи генеральным директором МЗОР, он видел всю ситуацию в стране и понимал, что прежняя система хозяйствования порочна, что ее нужно менять, что рынок в разы эффективнее плановых заданий, что экономическая свобода даст возможность людям проявлять свои лучшие деловые и гражданские качества. Об этом он не боялся говорить даже на самом высоком уровне.

Что произошло? Услышали, заключили под стражу, но все равно не сломили.

Десять лет Михаил Михайлович разрывался между Минском, где была его семья, и Россией, где была его работа. В одну из таких поездок не выдержало сердце… Жалко, больно, обидно… Он много сделал для своей страны, а мог сделать еще больше. Не так много в Беларуси по-настоящему больших личностей, чтобы ими разбрасываться, чтобы не ценить, чтобы увольнять за то, что они имеют свою позицию.

Люди помнят и ценят добро. Простые рабочие МЗОР это доказали, придя на похороны СВОЕГО ДИРЕКТОРА. Нет, никакого не бывшего, а САМОГО НАСТОЯЩЕГО, который видел и понимал проблемы страны и нужды людей. И призывать хранить память о Михаиле Кривомазе не надо, его будут помнить, помнить не по словам, а по делам его.

**Евгений ОГУРЦОВ.**

З ПІСЬМА

## Дабудуем той будынак, які пачалі ўзводзіць Багушэвіч і Купала

Добры дзень, шаноўная "Народная Воля"!

Віншую вас з трыумфам нашай суайчынніцы Святланы Алексіевіч, з атрыманнем ёю Нобелеўскай прэміі па літаратуры! Я прачытала ўсе яе кнігі па два разы, за выключэннем апошняй па часе, бо ў Магілёве наўрад ці яна з'явілася ў продажы, ва ўсякім разе ў маім мікрараёне яе няма.

Учора адзін слухач Радыё Свабода сказаў, што ў Мінску яе кнігі не купляюць, прынамсі, у тым магазіне, куды ён спецыяльна завітаў, хутчэй за ўсё каб упэўніцца ў гэтым. Так гэта ці не, мне не вядома. Але калі недзе і слабавата разыходзяцца выданні Святланы Алексіевіч, то гэта не яе віна, а хутчэй гэта бяда абсалютнай большасці беларусаў, якія калі і чытаюць што-небудзь, дык гэта з той глянцавай літаратуры, якая прадаецца ў падземных пераходах.

Святлана Алексіевіч, якая стала лаўрэатам Нобелеўскай прэміі, сёння для нас не проста сусветна вядомая пісьменніца, яна ў пэўным сэнсе наш нацыянальны прарок. Вось чаму хочацца ўсё больш чуць з яе вуснаў пра тое, што хвалюе нас, беларусаў. Я на кожным кроку заўважаю, як многім людзям не хапае патрыятычнай годнасці. А хто яе павінен выхоўваць? У першую чаргу прадстаўнікі інтэлігенцыі, тыя ж пісьменнікі. Супрацьстаяць, скажам, "русскому миру", расійскаму шавінізму могуць толькі такія, як Святлана Алексіевіч, а не паўпісьменныя, адурманеныя тэлеканаламі БТ і РТ свінаркі, даяркі, слесары, токары і гэтак далей.

Мы, простыя грамадзяне, не можам і не маем права даваць парады сапраўдным творцам, як ім глядзець на тыя ці іншыя падзеі, якую пазіцыю займаць. Мы можам па-рознаму ставіцца да іх твораў, але абавязак майстроў слова – скіраваць дадзены Богам талент на выратаванне Беларусі ад знішчэння яе ідэнтычнасці, на фарміраванне нацыі і г.д. Хто ж, як не яны, духоўныя асветнікі, дабудуе той будынак, які пачалі ўзводзіць Ф.Багушэвіч, Я.Купала і сотні іншых, хто ахвяраваў дзеля Бацькаўшчыны жыццём?

**Раіса КАТЛЯРОВА.**

*Магілёў.*

ПРАБЛЕМА!

## Грошай няма…

***Не адкрыю Амерыкі, калі скажу, што цяжка стала жыць пенсіянерам. І раней было няпроста, а цяпер зусім цяжка, асабліва ў горадзе. Даводзіцца лічыць літаральна кожны рубель, хапае толькі на самае-самае таннае. А калі захварэеш і трэба патраціцца на лекі, то і зусім хоць ідзі жабраваць. І брыдка, і крыўдна, і злосць нейкая на дзяржаву за такую нашу старасць. Ну няўжо сапраўды зусім няма грошай на тое, каб павысіць пенсіі, каб хоць троху людзям стала лягчэй?***

**Г.М.ШАРКО, Мінск.**

У Фондзе сацыяльнай абароны насельніцтва, з якога выплачваюцца пенсіі, грошай на павышэнне пенсій сапраўды няма. Зусім няма! Больш за тое, фонд ужо не можа сабраць сумы, неабходныя на выплату пенсій нават цяперашніх пенсіянераў.

Як паведаміў эканаміст даследчага цэнтра Інстытута прыватызацыі і менеджменту **Глеб ШЫМАНОВІЧ**, за дзевяць месяцаў бягучага года ў фонд паступіла 73,6 трыльёна рублёў, а выдаткі склалі амаль 79,5 трыльёна. Іншымі словамі, ужо ўтварылася "яма" памерам больш за 6 трыльёнаў рублёў. Пакуль дэфіцыт часткова пакрывае дзяржава, але гэта азначае, што ўразаюцца іншыя праекты.

Сітуацыя настолькі вострая, што спецыялісты сур'ёзна загаварылі пра тое, што неабходна павышаць падатак з працуючых, які адлічваецца ў Фонд сацыяльнай абароны. Але і ў працуючых людзей заробкі невялікія, каб нешта яшчэ ўразаць. Карацей, замкнёнае кола…

ОТКРОВЕННО

### Как встретишь Новый год…

Мы с друзьями в этом году решили не слушать новогоднюю речь А.Лукашенко. Говорят: как встретишь Новый год, так его и проведешь.

Мы хотим встретить Новый год без раздражения. Хотим встретить его с «Народной Волей».

**Вера МИРЗАМАМЕДОВА.**

*Гродно.*

ЕСТЬ ВОПРОС!

## Прохудилось озеро?

Я родился в Мяделе, правда, с младенчества там не жил и бывал до обидного редко, но считал, что самое синее в мире – озеро Нарочь. О Браславских озерах был наслышан – лет сорок собирался туда поехать, но лишь восемь лет назад по стечению обстоятельств оказался в Браславе. И теперь каждый год хотя бы на пару недель еду туда и на все предложения детей покататься по белому свету отвечаю твердым отказом: мое сердце на Браславских озерах. Вот почему очень встревожило меня то, что я увидел в этом году.

Летом прошлого года я, как ни рвался, поехать в Браслав не смог. Оттого этим летом, нетерпеливо заякорив лодку в заветном месте возле камышей, устанавливая поплавок на привычную глубину, с изумлением обнаружил, что глубина здесь почти на метр меньше, чем была в позапрошлом году. Первая рыбалка тем не менее оказалась удачной. И все же я попытался узнать у местных жителей и рыболовов, чем вызвано такое заметное падение уровня воды в озере Дривяты. Все говорили об аномально сухой погоде в последние два года. Вот, дескать, пойдут дожди… Первый после мая месяца нормальный дождь пошел 1 сентября, шел с небольшими перерывами целый день и промочил гряды на пять сантиметров, а глубже – земля осталась сухой как порох. На следующий день мне пришлось срочно уехать домой, забрать лодку и снасти я смог лишь 25 сентября. На берегу озера я остолбенел: за время моего отсутствия уровень воды в озере опустился на 35–40 сантиметров. Чтобы оценить масштаб этого явления, проведем приблизительные расчеты.

Площадь озера Дривяты – немногим более 30 квадратных километров. Понижение уровня на треть метра говорит о том, что озеро потеряло 10 миллионов кубических метров воды. Это при средней глубине 6 метров составляет 5% его объема. Для наглядности: столько воды вместило бы озеро площадью 2 квадратных километра и глубиной 5 метров. Объяснить такие потери, на мой взгляд, можно лишь нарушением баланса между подземными водами и озером. А что будет дальше?

В конце ноября уровень воды в озере не поднялся…

Очень хочется узнать у ученых и практиков природоохраны: не придется ли нашим замечательным бардам Галине и Борису Вайханским вместо чудесной песни «Воспоминания о Браславских озерах» исполнять реквием?..

**Михаил ЗАПОЛЬСКИЙ.**

СМАЧНА ЕСЦІ!

## Чаму дранікі такія дарагія?



Літаральна днямі ў многіх беларускіх кафэ і рэстаранах па ініцыятыве Мінгарвыканкама праходзіў Тыдзень беларускай кухні. Нацыянальныя стравы ва ўсіх установах грамадскага харчавання, якія ўдзельнічалі ў мерапрыемстве, гатаваліся па адной і той жа рэцэптуры, іх аднолькава выкладвалі на талерках, і нават кошты на іх паўсюль былі аднолькавыя.

У прынцыпе, сама па сабе ідэя з днямі беларускай кухні вельмі добрая. І нават шкада, што на нацыянальную кухню адвялі толькі тыдзень, а не месяц. Але я не аб гэтым хачу сказаць. Мяне ўразілі кошты. Так, порцыя самых звычайных дранікаў з каўбасой па-вясковаму каштуе 90 тысяч беларускіх рублёў. Ну хіба гэта нармальна?! Я лічу, што для Беларусі, дзе бульба – другі (а можа, нават і першы) хлеб, гэта занадта. У інтэрнэце наткнуўся на развагі наконт Тыдня беларускай кухні дырэктара аднаго са сталічных кафэ. Дык ён сказаў, што на некаторыя стравы са спіса тых, што былі прапанаваны ў меню тыдня, можна было б падвысіць кошты, а на дранікі, наадварот, знізіць.

Заўважце, што дранікі ў нашых рэстаранах увогуле каштуюць нятанна. Толькі я зусім не разумею, чаму?..

**Пётр КАВАЛЕРАЎ.**

*Мінск.*

ХОЧУ СКАЗАТЬ…

### Кому-то радость, а кому-то головная боль

Согласитесь, увеселительные мероприятия, сопровождающиеся пьянками, громкой музыкой, криками, взрывными салютами, добьют любого, кто живет рядышком. Кому-то радость, а кому-то головные боли и неврозы. Нашей семье это знакомо. В жилой зоне на нашей улице есть радетельный хозяин, который на своем участке (на свежем воздухе, что сейчас модно) проводит свадьбы, корпоративы и так далее. Все соседи на постоянную громкую музыку жалуются – но пока только друг другу. А по закону, если соседу в жилой зоне мешают звуки, даже негромкие, исходящие от динамиков, хозяин обязан выключить! Но кто на этот закон обращает внимание? Кто пойдет на свадьбу или корпоратив без музыки, фейерверков, спиртного и т.д.? Тишина, природа и чай – все это устраивает очень немногих…

**И.Ю.ГОЛОВНЁВЫ.**

*г.Мозырь.*

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

## Ці будзе ў Мінску вуліца імя Юрыя Захаранкі?



***Памятаю, што гадоў пяць таму, здаецца, Аб'яднаная грамадзянская партыя выступіла з ініцыятывай надаць адной са сталічных вуліц імя былога міністра ўнутраных спраў Юрыя Захаранкі. Партыйцы накіроўвалі розныя запыты і просьбы з гэтай нагоды, але чым скончылася гэтая ініцыятыва? Апусцілі рукі – і ўсё на гэтым?***

**Іван ЦЕЦЯРУК, Брэст.**

Сапраўды, прадстаўнікі Аб'яднанай грамадзянскай партыі ў свой час накіроўвалі ў Мінгарвыканкам просьбу аб тым, каб у Мінску з'явілася вуліца імя Юрыя Захаранкі. І нават прапаноўвалі тагачаснаму міністру ўнутраных спраў **Уладзіміру Навумаву** падтрымаць гэтую ініцыятыву.

*– Мы некалькі разоў рабілі такія запыты ў Мінгарвыканкам, прычым не толькі наконт Юрыя Захаранкі, але і наконт **Генадзя Карпенкі**,* – распавёў "Народнай Волі" старшыня АГП **Анатоль Лябедзька**. – *Нам кожны раз дасылалі адпіскі: маўляў, пакуль няма такой магчымасці. Апошні раз мы звярталіся з гэтай нагоды да прадстаўнікоў улады гады тры-чатыры таму.*

*Я думаю, варта і сёння паспрабаваць ізноў вярнуцца да гэтай справы. У нас жа як быццам лібералізацыя.*



*Я веру, што калі-небудзь у Беларусі з'явяцца вуліцы Захаранкі, Карпенкі, а таксама іншых выбітных дзеячаў. Статус гэтых асоб і іх роля ў гісторыі краіны дазваляюць так ставіць пытанне. Гэта проста пытанне часу.*

Дарэчы, 4 студзеня дзень народзінаў Юрыя Захаранкі. У 2016 годзе яму споўнілася б 64 гады. Генерал быў гвалтоўна выкрадзены побач са сваім домам у маі 1999 года, калі яму было 47...

Калі верыць следчым, то расследаванне крымінальнай справы нібыта працягваецца. Але што робіцца, каго дапытваюць, якія аператыўна-следчыя мерапрыемствы праводзяцца – нічога не вядома. Сям'я Юрыя Захаранкі жыве ў Германіі. А ў Беларусі яго дагэтуль чакае старэнькая маці...

**Марына КОКТЫШ.**

ПАД ГРАДУСАМ

## Зіма заблукала

*Пра футра, лыжы і санкі можна пакуль забыць. Беларусь чакае рэзкае пацяпленне.*

– Зімы і маразоў па-ранейшаму не будзе, – *распавёў пра надвор'е на бліжэйшы час сіноптык **Дзмітрый Рабаў**.* – Да канца тыдня краіна будзе знаходзіцца пад уплывам атмасферных франтоў, якія перамяшчаюцца з Заходняй Еўропы.

***У суботу*** на большай частцы тэрыторыі кароткачасовыя дажджы. Ноччу па поўдні месцамі туман. Тэмпература ноччу +1...+7°C, днём +3...+10°C.

***У нядзелю*** ўначы на большай частцы тэрыторыі, днём месцамі кароткачасовыя дажджы. Ноччу па поўдні месцамі туман. Тэмпература ноччу +3...+8°C, днём +5...+10°C.

**Вера ВІР.**

